# Šlach Biełaruskaha Studenta

MIESIAČNY DADATAK DA „ŠLACHU MOŁADZI“.

№ 2 (6) Vilnia, Luty 1939 h. Hod II.


## Pierad vybarami ŭ Studenckim Sajuzie

Pa burlivych minułych hadoch u studenckim žyćci Vilenskaha Universytetu,paśla vialikaha ažyŭleńnia dziejnaści studenckich polskich arhanizacyjaŭ, nastupiŭ ciapier čas vialikaj pasyŭnaści i zastoju. Kab vyšej skazanaje paćvierdzić, davoli budzie ŭspomnić ab faktach vielmi małoj kolkaści prysutnych siabroŭ na ahulnych schodach najbolšych studenckich arhanizacyjaŭ Vilenskaha Universytetu: Bratniaj Pomačy i Koła Praŭnikaŭ.

Niekatoryja arhanizacyi, jak padaje biuleteń „Związku Ziem Północno-Wschodnich“, prosta musiać haniacca za novymi siabrami, bo inakš nia ŭstupajuć. Čamu až da hetaha ŭžo dajšło, rozna tłumačać. Ja nia budu hetaj spravaj zajmacca, bo jana nas mienš cikavić. Nas cikaviać pierad usim svaje arhanizacyi i im tut krychu miesca chaču paśviacić.

Usim viedama, što biełaruskaje studenctva pieražyvaje ciapier ćviordy los starejšaha hramadzianstva, i varunki pracy biełaruskich studenckich arhanizacyjaŭ: Biełaruskaha Studenckaha Sajuzu, Tavarystva Pryjacielaŭ Biełaruviedy taksama nialohkija. Viedajuć ab hetym dobra siabry Bieł. Stud. Sajuzu z ładžańnia apošniaha kancertu.

Usio heta nie złamała adnak Biełarusa studenta. U 1938 h. u Bieł. Stud. Sajuz ustupiŭ najbolšy lik novych siabroŭ za apošnija hady. Ustupili nia tolki tyja, što pieršy hod źjaŭlajucca na ŭniversytecie, ale ŭstupili navat i takija, jakija chutka hety-ž universytet skončać, a dahetul da svaich arhanizacyjaŭ nie naležyli.

Umieru, jak varunki stavalisia što raz ciažejšymi, ad Sajuzu adyjšoŭ škodny jamu element karjerystaŭ, ustupili-ž novyja śviežyja siły i ŭ tavaryskim sužyćci, ciaśniejšym čymsia kaliś raniej, viadziecca dalej praca nia mienšaja, čymsia heta rabiłasia pierš, choć ciapier mnoha horšyja abstaviny.

I voś ciapier, kali ŭ Sajuzie adchodzie stary ŭrad, a jaho miesca maje zaniać novy, pierad vybarami hetaha-ž novaha ŭradu pavinien zadumacca kažny student — siabra Sajuzu. Ad uradu arhanizacyi budzie zaležyć dalejšaje sužyćcio, razvoj arhanizacyi i praca. U biełaruskim studenctvie jość mnoha achvoty da hramadzkaj pracy, achviarnaści dla spravy, paryvaŭ, adnak žyvaja realnaść mocna biare ŭ svaje ruki. Ciažkija materjalnyja varunki, navał roznaj pracy, časta nad siły, mocna adbivajucca na žyćci biełaruskaha studenctva. Urad dzieła hetaha pavinien u mieru mahčymaści składacca z asob stojkich charaktaram, niezaležnych i majučych bolš volnaha času paśviacić pracy ŭ arhanizacyi.

Nie zabyvajma, što Biełaruski Studencki Sajuz maje ŭžo svaju pryhožuju tradycyju i minuŭščynu. Arhanizacyja heta była zaŭsiody niezaležnaj, sapraŭdy biełaruskaj, pravodziła davoli vialikuju biełaruskuju rabotu i musić dalej hetkaj astavacca. U Sajuzie złučyła nas adna meta, adno supolnaje imknieńnie — słužyć našaj Baćkaŭščynie i Narodu. Ab hetym my pavinny zaŭsiody pamiatavać u svaim arhanizacyjnym žyćci i hetym zaŭsiody kiravacca. Ab hetym treba tak-ža pamiatavać i vybirajučy novy ŭrad. Musim pastupać tak, jak ad nas vymahaje biełaruskaja sprava.

J. V.

**Kožny student Biełarus pavinien naležać da biełaruskich studenckich arhanizacyjaŭ.**

**Biełaruski Studencki Sajuz mieścicca: Vilnia, Zavalnaja vul. 1—2 (pry drukarni). Dyžury adbyvajucca što-dzień ad hadziny 18.30 da 21.**

## Рэвалюцыя, якая падняла дэмакратычныя клічы

Мінае 150 гадоў ад выбуху Вялікай Францускай Рэвалюцыі, калі на закрываўленых сьцягох залуналі высокія клічы—свабоды, роўнасьці і братэрства, калі накіпеўшая злосьць усімі паніжанай трэйцяй клясы работнікаў і сялян—вылілася ў форме вялікага аружнага пратэсту супроць пануючага рэжыму. Бязвыхаднае палажэньне неўпрывіліяванай клясы, паўстаўшае дзякуючы здэмаралізаваньню каралеўскага двара, марнаваньню грамадзкай маемасьці, затраце ўсякага пачуцьця справядлівасьці, выклікалі гэтае крывавае змаганьне.

Прынцып „Apres nous le deluge“ (пасьля мяне хоць патоп), якім кіраваліся пануючыя, прывёў да агульнай галіты, вялікага незадаваленьня і цяжкога гаспадарскага крызысу. Нясьмелыя рэформы каралеўскіх міністраў не давалі ніякага пазытыўнага рэзультату. Крызыс яшчэ паглыбляўся.

Скліканыя з гэтай прычыны ў 1789 г. Гэнэральныя станы, на якія прыбыла найлічнейшая лічбова і палітычна дасьпелая трэйцяя кляса неадступна высоўваючы свае дамаганьні, сталася пачаткам рэвалюцыі.

Перакананая ў справядлівасьць выстаўленых лёзунгаў, кінулася на перастарэлыя формы грамадзкага жыцьця, якія тармазілі нарадзіўшыяся новыя пульсуючыя жыцьцём плыні. Збурэньне Бастыліі, як сымбалю гнёту і паняверкі, ухваленьне правоў чалавека і грамадзяніна, што заключалі ў сабе пастуляты пазбаўленай усякіх правоў трэйцяй клясы, былі першым крокам рэвалюцыі.

Спробы караля Людвіка XVI уцячы заграніцу і паўстаньне розных крайніх дэмакратычных угрупаваньняў з кордыльерамі, якобінамі і жырандыстамі на чале, прывялі да прыгавару кара-

ля на сьмерць і жорсткіх рэпрэсыяў адносна ворагаў рэвалюцыі. Да ўлады дайшлі найболей крайнія партыі з Робэсп'ерам і Дантонам на чале, якія пачалі вясьці рашучую, жорсткую барацьбу з сваімі праціўнікамі.

Народная Конвэнцыя з 21 верасьня 1792 г. абвясьціла Францыю рэспублікай.

Нічога не магла зрабіць уцёкшая за граніцу французкая арыстакрацыя, ані кааліцыйныя войскі манархістычных дзяржаў, якія заатакавалі Францыю, ані так жа ўнутраньнія партыйныя спрэчкі.

Новаўтвораная рэспубліканская армія, якая складалася з ахвотнікаў, дзякуючы энтузыязму і моцным ідэолёгічным перакананьням перамагла нямецкія, ангельскія, сардынскія і гішпанскія войскі і паўстаўшыя ўнутраньнія труднасьці. Бо якая сіла магла супроцьставіцца даўней паніжаным і гныбленым, а цяпер скінуўшым кайданы няволі, абагрэтым праменьнямі шчасьлівай будучыні?

Сьветлыя ідэі дэмакрацыі, якія высунула Вялікая Французская Рэв., дзеля зрэалізаваньня якіх праліта рэкі крыві, ня толькі што ня страцілі на актуальнасьці і вартасьці, але былі болей распрацованыя і запалі яшчэ глыбей у сэрцы наступаючых пакаленьняў.

Высокія парываючыя клічы з бліскавічнай хуткасьцю абляцелі зямную кулю, прыносячы разам з сабою луч надзеі на лепшую будучыню. Але ня спалі і тыя, супроць каго былі яны накіраваны. Выступілі яны супроць гэтай творчай плыні ня толькі з фізычнай сілай, але таксама ў плошчы ідэолёгічнай, творачы розныя крыклівыя праграмы, шумныя доктрыны, каб гэтым прыцьміць сьвятло дэмакрацыі, каб затармазіць яе пераможны паход.

Паўстала цэлы рад рэакцыйных кірункаў, каторыя не стварылі нічога арыгінальнага, а проста перавярнулі клічы французскай рэвалюцыі ў адваротны бок. Розныя рэакцыйныя доктрынэры і пісакі ўсякіх афарбовак і напрамкаў пенючыся са злосьці і страху пачалі крычаць аб упадку, аб няжыцьцёвасьці дэмакрацыі, высоўваючы на яе месца фантастычныя, часта карыкатуральныя канцэпцыі, абапёртыя на фікцыях, фантазіях і на аблудзе.

І вось стварыўшы гэткія казачныя тэорыі, з трыумфальнай мінай закрычалі аб перамозе над дэмакратычнымі ідэямі, якія выплываюць з нутра людзкой істоты, якія зьяўляюцца натуральным імкненьнем цесна зьвязаным з прыродай чалавека. Бо і што ёсьць вышэйшае і шляхатнейшае ад роўнасьці свабоды і братэрства? Чалавек ужо на самай прымітыўнай ступені свайго разьвіцьця належна ацаняе значэньне вольнасьці, свабоды, бо яна цесна зьвязана з яго псыхічнай конструкцыяй. Палітычныя кірункі абапёртыя на гэткіх клічах ня ёсьць выдумкай, штучным творам. Калі глянем у мінуўшчыну, то пабачым, што ўсякія фантастычныя доктрыны, бяз нейкай глыбейшай апоры, а падтрымліваныя толькі фізычнай сілай, міналі, як цень, не пакідаючы па сабе ніякага сьледу.

Ніхто ня зможа перамагчы таго, што выплывае з душы чалавека, што ёсьць прыроджаным, цесна зьвязаным з людзкой істотай — і што ёсьць асновай дэмакрацыі. **Ірк.**

## Vysialeńnie z Vilni staršyni Ukrainskaha Stud. Sajuzu

Paśla vysialeńnia z Vilni biełaruskich dziejačoŭ ks. Ad. Stankievіča, inž. A. Klimoviča i ks. Uł. Tałočki, niadaŭna atrymali zahad administracyjnych uładaŭ vyjechać z Vilni i z h. zv. pryhranič-

# БЛУДНЫЯ ВАГАНЬКІ

Многа цудаў спатыкаем у нашай Краіне, многа казак і песень, і многа бальляд аб вясельлях, хрэсьбінах, сьмерці, варожбах, знахарох і „салдатах", аб каханьні й закляцьці дзяцюкоў і дзяўчат.

У Пружанскім павеце вёска Круглае звецца; і Смаляне ёсьць бліска і многа другіх. Але ўсе так падобныя: тыя самыя стрэхі, і балота на вуліцах пад нагамі хлюпоча, злосны вецер зімою ў комінах шуміць і гне дрэвы ў садзе і ломіць галіны.

А за кожнаю вёскаю поле, сенажаць зелянее, панскі лес упіраецца ёлкамі ў сінь, ці балота ўлетку граніцу праложыць, а зімою ірдзіцца люстрам ледзяным.

Вось, як пройдзе вясна і гарачае лета, калі збожжа сяляне ў гумны зьвязуць, малаціць пачынаюць цапамі снапы, сонца грэе ня моцна, дзень карацее і доўгія ночы пра восень пяюць. Неба траціць ўсю сінь, а становіцца шэрым, алавяным дажджом пачынае сячы і навісьне над узаранай зямлёю, быццам хоча задушыць яе і вадою размыць. Шумяць на дрэвах лісты пажаўцелыя значачы, што сюды восень прыплялася.

Дык такою парою, калі дождж перастане манатонна шумець і аб шыбы бубнець, калі неба нясьмела праз хмары прагляне і дрыжачым бляскам зоркі замірганюць, людзі боязна вечарам з хатаў выходзяць, пазіраюць нясьмела ў кірунку Смалян.

Там, як толькі схаваецца сонца за лесам і зьмяркань не крылом агартае зямлю, можна дзівы пабачыць на Выжары дзікім, дзе ніхто ня бывае, толькі дзікія травы растуць самавольна і ракіта чырвоная ціха шуміць.

Там раптам знекуль вагонь у цемень бярэцца, прабягае ад краю да краю пустыр, між карчамі мігае, разьбіваецца, гіне, гасьне, зноў-зноў запылае сьвятлом сіняватым і закруціцца вужам, затанцуе, заскача. Так гуляе пад поўнач глухую ці далей, пакуль зоркі міргаюць на небе ў высі.

Шмат хто бачыў вагонь, але праўды ня знаюць і загадкі ніхто ня ўмеў разьвязаць. Прыяжджалі вучоныя, ўжо інжынеры, гаварылі пра нейкія магілкі старыя, пра балота, што калісь у гэным месцы было. Але болей нічога яны не сказалі, можа тое, мо' гэта — на тым і канец.

Вагонь кожную восень палохае вёску і гуляе свабодна ў сваім каралеўстве. Вечарамі зьбіраецца моладзь па хатах, каб кудзелю папрасьці ці нешта пашыць. Дык старэйшыя знаную ўсім казку гавораць, ці мо' праўду, якая калісьці была.

У тым месцы, адкуль вечна вагонь выбягае, ляжыць камень вялікі, ну такі, як гумно. Кожны год усё большы расьце ён чамусьці, — жывы камень, напэўна, сьмела цьвердзяць усе.

Навокал яго толькі балота, балота, чырвонае ракітай і шэрай лазой. А калісьці быў лес тут, паляна, дарога, што за месяца прыгожае, — на зямлі быў тут рай. Дык прыходзілі хлопцы

## Z dziejnaści Tavarystva Pryjacielaŭ Biełarusaviedy

18.II sioleta ŭ Vilni adbyŭsia ahulny hadavy schod navukovaha biełaruskaha studenckaha Tavarystva Pryjacielaŭ Biełarusaviedy, na jakim, miž inšym, była zroblena spravazdača dziejnaści hetaha Tavarystva za čas ad 17.III.1937 da 18.II.1939 h.

Navukovaja dziejnaść T-va Biełarusaviedy vyražałasia pierad usim u ładžańni zborak z referatami z haliny biełarusaviedy i ekskursijaŭ u vilenskija muzei.

Zborki adbyvalisia ŭ VI zali hałoŭnaha budynku Vilenskaha Universytetu ŭ nastupnyja dni:

11.IV.37. Referat dr. J. Stankieviča na temu „Niekatoryja mamenty z našaj historyi“.

9.V.39. Referat inž. L. Dubiejkaŭskaha ab reformie dzieraŭlanaha budaŭnictva.

27.V.37. Uračysty viečar u 20-ja ŭhodki śmierci Maksima Bahdanoviča z referatam dyr. A. Łuckieviča pry ŭčaści F. Alachnoviča i H. Suchoj — recytacyi.

7.XI.37. Referat mgr. M. Piaciukieviča na temu: „Histaryčna-statystyčny ahlad novaha biełaruskaha piśmienstva“.

20.XI.38 była inaŭhuracyjnaja zborka ŭ biahučym školnym hodzie z referatam dr. J. Stankieviča — „Historyja biełaruskaha jazyka“.

Pačynajučy ad 22 studzienia 1939 h. tryvajuć arhanizavanyja T-vam kursy biełarusaviedy dla studentaŭ U.S.B. U ramach hetych kursaŭ u niadzieli i śviaty adbylisia ŭžo 4 lekcyi mgra M. Škialonka z biełaruskaj historyi, 2 lekcyi jazykaviedy d-ra J. Stankieviča, 2 lekcyi ab bieł. litaratury dyr. A. Łuckieviča i 2 lekcyi kal. T. Trafimučanki z hieohrafii Biełarusi. Pry arhanizavańni kursaŭ vyjaviłasia, patreba karty Biełarusi. Z inicyjatyvy T-va kartu hetu apracavali dr. J. Stankievič i mgr. M. Škialonak, a vykanała kal. T. Trafimučanka.

Asabliva važnaj dziejnaściu T-va jość, biazumoŭna, naładžańnie kursu biełarusaviedy, jaki dalej adbyvajecca i ŭ ramkach jakoha 19.II pračytaŭ dalejšuju svaju lekcyju z haliny historyi Biełarusi mgr. M. Škialonak, a dr. V. Tumaš referat z haliny ekanomiki Biełarusi.

Na vyšej uspomnienym schodzie paśla spravazdačy ŭradu z dziejnaści i pryniaćci jaje da viedama byŭ vybrany novy ŭrad T-va Pryjacielaŭ Biełarusaviedy ŭ hetkim składzie: T. Trafimučanka (staršynia), St. Hrynkievič, V. Čarneckaja, V. Jermałkovič i U. Pańko. U Revizyjnuju-ž Kamisiju vybrany: M. Smarščok, J. Jaroška i Č. Najdziuk.

Novym Uładam T-va Pryjacielaŭ Biełarusaviedy žadajem płodnaje pracy na nivie biełaruskaj kultury.

Čan.

## Z žyćcia danskich studentaŭ

Nie adzin raz, kali tak časta narakajem na roznyja złybiedy našaha studenckaha žyćcia, paryvaje nas cikavaść, jak heta pavodzicca studentam inšych nacyjaŭ, asabliva ad nas addalenych, ab pałažeńni katorych mała abo i zusim ničoha nia viedajem. Voś-ža budziem staracca ŭ mieru mahčymaści hetu cikavaść pastupova zaspakojvać.

Hetym razam padamo nieka-

naje pałasy litoŭski publicyst dr. Fr. Ancevič, staršynia Ukrainskaha Studenckaha Sajuzu ŭ Vilni Uł. Huculak i ukrainski student z Palityčnaje škoły ŭ Vilni T. Hacaluk. Ukrainskich studentaŭ, jakija vyjechali z Vilni 20 i 21 lutaha, advodzili na stancyju i horača raźvityvalisia studenty Ukraincy, Biełarusy i Litoŭcy.

й дзяўчаты на гульні і ня раз вечарына грымела да дня. Граў гармонік, цымбалы і песьні гудзелі, адбіваліся рэхам ад камляў дубоў.

Дзьве дзяўчыны заўсёды на гульнях бывалі, харашуні із вёскі вялі карагод.

Невялічка Тацянка із яснай касою і блакітам вясьнянага неба ў вачох. Голас мела так звонкі, як салоўка у гаю. Усе любілі яе, а найбольш дзяцюкі. Кожны з іх углядаўся ў сьветлыя вочкі, ў белы твар і чакаў на ўсьмешку яе.

А другая-ж, Хрысьціна, мела вочы, як ноч, і касу, што на гібкіх плячох распляталась крылом чорнага ворана. Сьмехам звонкім ня раз напаўняла глуш лесу, што із страху, здаецца, дрыжэлі лісты. Птушкі моўклі, хаваліся ў дрэваў гушчары, як-бы чуючы блізкасьць няшчасьця свайго. Была злая Хрысьціна, зайздросна і горда, паніжала ўсімі, хто ня слухаў яе. І баялася моладзь красуні дзяўчыны, хоць кахаліся ўсе ў няпрыветных вачох.

У гэтай грамадзе Алесь быў з чупрынаю чорнаю, як пропасьці дно. Сіньню вачэй углядаўся ў Тацяну і няраз каратаў з ёю вечар ціхі.

Хрысьцінінае сэрца абліваласся жарам, запякалася кроў у дзявочых грудзёх, вочы злымі вагнямі гарэлі ў поўнач, калі зоры ня міргалі соннай зямлі.

Раз, вясною, як кветкі на лузе прасыпаліся, а ў бары зашумелі на дрэвах лісты, прыляцелі з паўдня ўсе нашы пявуні, Алесь з Таняй ішоў ў блеску яснага дня.

Ужо зблiжалася Сёмуха, сьвята вясельля, ручнікі пабяліла на лузе раса і Тацянка ў царкве ўжо прыбрала абразы, каб прад імі дзявочасьць сваю разьвітаць. Лес шумеў пра каханьне, пра ясныя вочы, яны йшлі ў абняцьці гарачых касуль. Раптам камень скульсьць сьвіснуў — Тацянка схінулася, павекі прымкнула і прылягла да мокрае, сьвежае травы. Крывавая йстужка вілася ў касе, забялелі ружовыя шчочкі...

Прад тварам Алеся мігнуўся цень Хрысьціны... Усё зразумеў... І труп дзяцюка захістаўся на мохам паросшай галіне дубовай..

На дрэвах ад жаху лісьцё пажаўцела і падала вольна на кветкі й траву. На сіняе неба нахлынулі хмары, сыпнулі ўпраклятае месца дажджом. Вясна сарвала свой вэлян дзявочы і кінупа восені сумнай пад ногі. Туман разаслаўся між голых галінаў.

Хрысьціна прыпала да цела Тацянкі, у ясныя косы яе упілася: — „Даруй мне, даруй!“ — шаптала бяз слоў...

Ноч цемрай прыкрыла крывавую сцэну, выў віхар, а камень крывавы ўсё рос, ўпіваўся у луг сярод кветак пасохшых.

Забойцы душа пакінула цела. Вагнём загараецца ў асеньнюю ноч і просіць прашчэньня грахоў. Пасьля-ж хаваецца пад камень вялікі і дрэмле да жоўтых лістоў.

Як восень заплача над шэрай зямлёю, дык зноў той вагонь з над зямлі уцячэ і блудзіць ўсю ноч на балоце глухім.

Раса.

toryja cikaviejšyja viestki ab danskich studentach.

Na pačatak dziela ahulnaj arjentacyi prypomnim, što Danija zajmaje 44.417 kv. km. i ličyć kala 4 mil. žycharoŭ. Maje 2 universytety: adzin dziaržaŭny ŭ stalicy Kopenhazie, založany ŭ 1479 h., a druhi pryvatny ŭ Aarhus na paŭvostravie Jutlandzkim, založany ŭ 1928 h. Aprača universytetaŭ jošć u Danii mnoha inšych vyšejšych školaŭ, davoli starych, jak prykł. Vyšejšaja Ziemlarobskaja Škoła, jakaja pačatak svoj vyvodzić z pieršaj u Eŭropie pa svaim charaktary Školy Veterynaryjnaj z 1773 h. Jošć Politechnika zasnavanaja ŭ 1829 h., Vyšejšaja Škoła Handlovaja, 2 konservatoryi, Himnastyčny Instytut i inšyja.

Ahulny lik studentaŭ vyšejšych školaŭ siahaje 10 tys., tak što na ahulnuju ličbu žycharoŭ kraju prypadaje studentaŭ u siarednim kala 2 razoŭ bolš, čymsia ŭ Polščy.

Čas adbyvańnia studjaŭ na universytecie ŭ Kopenhazie pravam nie ahraničany. Student prystupaje da egzaminu tady, kali čujecca pryhatavany. Płaty za navuku niama, padobna jak uva ŭsich skandynaŭskich krajoŭ. Płacicca tolki ŭpisovych 22 cerony (25 zł.) i minimalnyja sumy za egzamien. Vykłady źjaŭlajucca dastupnyja tak-ža i dla šyrejšaj publiki.

Studenty majuć šyroki samaŭrad i vialikija mahčymaści arhanizacyjnaha žyćcia.

Ahuł studentaŭ kožnaj škoły tvoryć adno hramadztva, katoraje na ahulnym schodzie vybiraje Radu, jakaja reprezentuje studenckuju respubliku pierad uładami škoły. Usie Rady studenckija ŭsich vyšejšych školaŭ na supolnym sabrańni vybirajuć pradstaŭnictva ŭsich danskich studentaŭ — Danske Studerendes Nationdraad — Narodnuju Radu Danskich Studentaŭ. Złučaje jana ŭ svaich radoch usich biaz vyniatku akademikaŭ u dziaržavie. Narodnaja Rada źjaŭlajecca mahutnaj arhanizacyjaj. Ciešycca jana pašanaj i davierram, jak hramadzianstva, tak i ŭładaŭ. Jejnyja ŭpłyvy časta starajucca vykarystać palityčnyja partyi, adnak ža danskija studenty mocna baroniać niezaležnaści svajej reprezentacyi. *(n.)*



*„...Skažam --skazaŭ biezjazyki...“*

## „Kulturniki“

Niadaŭna trapiŭ mnie ŭ ruki apošni (piaty) numar „Kresoviaka“ (Biuletyń Informacyjny Związku Studentów Ziem Północno-Wschodnich R. P.). Zdajecca, što-ž tam takoje? — pra hetkaje hłupstva i pisać niavarta. Ale... Dzie naša nie prapadała—napišu.

Pierš-napierš, sšytok davoli abjomisty—jak uziać u ruki, dyk zdajecca, što tam matarjału na pałavinu dnia čytać... Adbity na ŭłasnym šapirohrafie, što horda zaznačana na vokładcy.

Na pieršaj staroncy tvor viedamaha fürera „masaŭ,“ katorych niadrukavanaj devizaj jošć — „kudy viecier vieje.“ Artykuł pačynajecca pryhožym zahałoŭkam „Moładaść! ty nad uzroŭni...“ Na hetym skazie, vyrvanym z „Ody da moładaści“ Mickieviča, i kančajecca pryhožaść artykułu. Bo dalej pačynajecca stareńkaja pierapietaja piesieńka sytaha pra hoład: biada siarod studentaŭ, silnyja ludzi, idejnyja padstavy, evolucyja pahladaŭ i h. d. i h. d.

Čytajučy hety daŭhi artykuł, nijak nia možna zrazumieć, čaho aŭtar choča; vidać tolki, što... nia choča ci nia moža havaryć ščyra. Čujecca žal u słovach: „Amal usie studenckija arhanizacyi pieražyvajuć kryzys, musiać haniacca za novymi siabrami.“ Aŭtor pryznajecca, što nie pamahajuć navat datacyi i subvencyi. Zaniapad usich(?) idejnych (?) arhanizacyjaŭ jon tłumačyć tak: „Studenckaja moładź damahajecca i šukaje kankretu, a nie abstrakcyi“... Cełaść možna było-b scharaktaryzavać słovami samoha aŭtara— „frazy i tolki frazy.“

Ale jakim pravam hetyja frazy padviedzieny pad słovy z natchnionaj „Ody“? Što jošć supolnaha pamiž hetymi frazami i ŭzlotami-paryvami moładzi?

„Moładaść! ty nad uzroŭni vylaci...“ Prychodziać na pamiać metady varbavańnia siabroŭ u „Związek:“ Da kalehi, ci kaležanki, katorych ličać za bolš naiŭnych, pačynajuć padmazvacca takija typy... Hutarki pra ciažkoje žyćcio, biadu, hrošy. A paśla adnojčy— „Zapisvajsia ŭ naš sajuz—za miesiac atrymaješ abiedy, majem źnižki ŭ kina“... Ciomnyja zapisvajucca(navat upisalisia tudy niekatoryja absolventy biełaruskaje himnazii, jakija nat' byli „idejnymi“ siabrami BSS, a paśla niamienš idejna zdradzili, dy čurajucca navat svajho jazyka...). A inšyja...bolej z „idejnikami“ nia vitajucca.

„Studenckaja moładź damahajecca i šukaje kankretu, a nie abstrakcyi,“ ale nia ŭsia. A lepiej—nia ŭsie ličać kankretam abied,—bo siańniašni abied zaŭtra budzie abstrakcyjaj, panovie šlachta! Hetkija „kankrety“ nie biaruć!

Ale, vybačajcie! Ja zdajecca nie na miescy pačaŭ palemiku razvodzić... Viartajusia da „Kresowiak'a“.

Na čaćviertaj staroncy— artykuł pra Akademicki Dom infarmuje pra tyja fakty, što daŭno viedamyja kožnamu studentu. Biuleteń „kankretna-idejnaha“ Sajuzu paviedamlaje, što ŭ Akademickim Domie jošć šaviec, pralnia, kramka i h. d. Nie chvalusia, ale ja hetkija „chatnija pracy“ bačyŭ u treciaj klasie himnazii.

Ale.. de gustibus non est disputandum. Redaktaru tak vidać spadabaŭsia hety tvor, što jon ušyŭ jaho trojčy(!)u adzin ekzemplar časapisu. Što tam — dumaje — papieru škadavać—usio-ž budzie zdavacca, što hazecinka taŭściejšaja!

Na piataj staroncy Chronika, z katoraj možna daviedacca, što Biuleteń pišuć tolki siabry „Związku“(nia turbujciesia—i tak vidać!), što kvestura nia vypłačvaje stypendyjaŭ i što „źnižki ŭ kiny možna atrymać u hadziny dyžuraŭ.“

Voś vam uvieś „kankretna-idejny“ źmiest Biuleteniu arhanizacyi, katoraj dziejnaść zvodzicca da vydavańnia źnižak u kiny. Kab nadrukavać jaho tak aščadna, jak drukujucca biełaruskija — nie „paŭnočna-uschodnija“ — časapisy, dyk cely Biuleteń zaniaŭ-by hetulki miesca, jak... moj feljeton.

A vyhladaje pavažna— vosiem listoŭ papiery vialikaha farmatu, šumny zahałovak, dy jašče pryhožaje motto ab česnaści... Tym, chto nia ŭmieje čytać, zdajecca, što sapraŭdy niešta jošć. Ja čytaŭ „Kresoviaka“ 17 minut—ad daski da daski: kožnuju litaru pierahledziŭ.

Ale, vidać, papracavali nad im ludzi nie adnu hadzinku. Z medytacyjaj, z kontemplacyjaj...

Vybačajcie, bratki! Ja baču, vy nie razumiejecie, našto ja ŭsio heta pišu. Jakoje mnie dzieła da niejkich tam ludziej. A tut sprava prostaja: — hety „Związek“ maje adnej z metaŭ „pašyrańnie kultury na paŭnočna-ŭschodnich ziemlach.“

Razumiejecie?!

Ludzi, što pisali Biuleteń, heta „kulturniki.“

Mizeryja!... VUK